# ПАГОНЯ

ЗАСНАВАНА У 1920 г

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

№ 29 (176) • 19 — 25 ліпеня 1996 г. • Кошт свабодны


## НА ГАРАДЗЕНШЧЫНЕ – ЯК МІНІМУМ СТО ХВОРЫХ НА СНІД

Бываюць прагнозы, спраўджванне якіх не прыносіць радасьці. Два месяцы таму "Пагоня" паведаміла, што ў Горадні выяўлены хворы сіндромам набытага імунадэфіцыту (СНІДам). Тады ж мы прагназавалі, што гэта - толькі пачатак. Зусім нядаўна хвароба была знойдзена і ў маладой гарадзенкі. Калі ўлічыць, што на кожнага выяўленага хворага прыходзіцца каля 50-ці нявыяўленых, то ёсьць падстава сьцьвярджаць, што на Гарадзеншчыне сёньня каля ста чалавек жыве са сьмяротным прысудам. На восьмай старонцы "Пагоні" чытайце інтэрв'ю карэспандэнта "Пагоні" з выконваючай абавязкі галоўнага ўрача абласнога Цэнтру прафілактыкі СНІДу Галінай Косавай.

## АДСЬВЯТКУЕМ ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

27 ліпеня, у Дзень Незалежнасьці, Гарадзенская Рада Народнага Фронту плануе правесьці шэсьце і мітынг. Акцыя пачнецца а 10-ай гадзіне каля памятнага знака паўстанцам 1863 году, які ўсталяваны на чыгуначным вакзале. Удзельнікі маніфестацыі плануюць таксама ўскласьці кветкі да помнікаў Янкі Купалы, Элізы Ажэшкі і Вітаўта Вялікага. Закончыцца шэсьце ўшанаваньнем помніка "Пагоня на Грунвальд", што знаходзіцца каля Каложы ў Новым парку. Там жа плануецца правесьці і мітынг.

## У ДЭПУТАТАЎ - СЕСІЯ

Сёньня ў Горадні пачалася сесія абласнога Савету. Дэпутаты абмяркуюць пытаньне "Аб рабоце жыльлёва-камунальнай гаспадаркі вобласьці і мерах па яе ўдасканаленьню".

## СТО ЛЯТ ПАНУ ПРЭЗІДЭНТУ!

У панядзелак 15 ліпеня, Прэзідэнт А.Лукашэнка, паведаміў, што намераны прызначыць на 7 лістапада новы рэферэндум. Адным з пытаньняў будзе працяг тэрміну яго паўнамоцтваў яшчэ на два гады. Чаму не пажыцьцёва і з правам перадачы ў спадчыну?




Надвор'е 20 і 21 ліпеня чакаецца хмарнае з праясьненьнямі, вецер паўночны 5-10 м/сек, часамі магчымыя невялікія кароткачасовыя даджы, хаця ўначы 20 ліпеня ападкаў не чакаецца. Тэмпература паветра ўначы ў выхадныя дні 6-11 градусаў, а ўдзень - 15-20 градусаў.

# "ЗАКЛІКАЕМ ПЕРАГЛЕДЗЕЦЬ РАШЭНЬНЕ..."

**Рашэньне ўладаў выселіць рэдакцыю нашай газеты і культурна-асьветніцкі фонд "Бацькаўшчына" выклікала значны рэзананс. Прадстаўнікі нацыянальна-культурных таварыстваў, сродкаў масавай інфармацыі, палітычных партыяў рыхтуюць звароты да кіраўнікоў горада з просьбай перагледзець гэтае рашэньне.**

**Адзін з такіх зваротаў мы зьмяшчаем ужо сёньня.**

**Спадзяемся, што кіраўнікі выканаўчай улады не аставяць яго без дэталёвага разгляду. Мы ўпэўненыя, што ўрэшце рэшт пераможа прынцып: "Не народ для ўраду, а ўрад для народу!"**

**Мы ўдзячныя людзям, якія ўжо выказалі сваю пазіцыю. Аднак надалей лісты ў нашу падтрымку просім Вас адрасаваць непасрэдна тым, ад каго залежыць вырашэньне пытаньня.**

Старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму **А.І.Дубко**

Старшыні Гарадзенскага гарвыканкаму **Г.А.Крупенку**

Кіраўніку адміністрацыі Ленінскага раёну г. Горадні **Б.М.Казялкову**

*Паважаныя спадары!!!*

*Наш зварот да Вас выкліканы лістом , накіраваным адміністрацыяй Ленінскага раёну на адрас культурна-асьветніцкага фонду "Бацькаўшчына", у якім, у прыватнасьці гаворыцца: "...договор аренды помещения по ул. Советской , 10 перезаключаться не будет. Для отселения предлагаем помещение по ул. К.Маркса".*

*Зьвяртаем Вашую ўвагу на тое, што падобнае рашэньне азначае зьнішчэньне цэлага культурна-асьветніцкага комплексу, які склаўся на базе фонду "Бацькаўшчына". Цяпер, акрамя самаго фонду на гэтых плошчах працуюць: рэдакцыя адзінай у горадзе беларускамоўнай газеты "Пагоня", Таварыства Беларускай Мовы, Таварыства Беларускай Школы, Таварыства Вышэйшай Беларускай Школы, гісторыка-культурны клуб "Паходня", хор духоўных сьпеваў "Бацькаўшчына", маладзёжны альянс імя Вітаўта Вялікага.*

*Усе гэтыя арганізацыі зьяўляюцца грамадзкімі, існуюць на ахвяраваньні, а значыць фактычна не маюць сродкаў для таго, каб абсталяваць новае месца. А хто кампенсуе затраты, якія былі ўкладзены гэтымі арганізацыямі па адрасу Савецкая, 10?*

*Нагадваем Вам, што памяшканьні па адрасу Карла Маркса,11 знаходзяцца ў аварыйным стане, даўно пастаўленыя на капітальны рамонт. Устанавіць там кампутарную тэхніку - гэта значыць зьнішчыць каштоўнае абсталяваньне.А дзе прымаць прадстаўнічыя арганізацыі замежных беларусаў, якія супрацоўнічаюць з фондам "Бацькаўшчына"? Няўжо ў цёмных і сырых пакоях з праваліўшайся падлогай? Няўжо ў будынку, дзе нават прыбіральні няма?*

*Падобныя крокі беларускай улады, якія руйнуюць і ганьбяць беларушчыну - гэта шлях да самазьнішчэньня. Ставячы крыж на грамадзкім беларускім жыцьці, ўлада не вырашае і праблемаў з разьмяшчэньнем і сваіх службаў, бо, па сьведчаньню работнікаў райсабесу, памяшканьні на Савецкай,10, не адпавядаюць іхняй сьпецыфіцы.*

*Дык каму патрэбныя такія крокі? Ці ж задача ўлады стварэць на пустым месцы праблемы? Мы заклікаем Вас перагледзець прынятае Вамі рашэньне. Мы просім Вас зрабіць такія захады, якія б дазволілі не ўраніць аўтарытэт уладаў у вачах грамадзкасьці.*

*З павагай,*

**Аляксандр Шыдлоўскі**, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, ганаровы грамадзянін г.г. Гродна і Смаргоні, кампазітар;

**Апанас Цыхун**, заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь, краязнавец, літаратуразнавец;

**Тацьцяна Маліноўская**, член Прэзідыуму Гарадзенскага гарсавету, дэпутат гарсавету, Старшыня Гарадзенскай абласной філіі Фонду Л.Сапегі;

**Васіль Касьцюшка**, Член Прэзідыуму Гарадзенскага гарсавету, дэпутат гарсавету;

**Яўген Петрашэвіч**, кіраўнік фальклорнага ансамбля "Гарадзенскія дудары";

**Мікалай Мельнікаў**, старшыня Рады Гарадзенскага аддзяленьня БДА "Ветэран", дацэнт ГрДзУ імя Я.Купалы, удзельнік ВАВ;

**Алесь Астроўскі**, старшыня Таварыства Беларускай Вышэйшай Школы, доктар медыцынскіх навук, прафесар;

**Сяргей Габрусевіч**, старшыня праўленьня Гарадзенскага абласнога фонду культуры, прафесар;

**Аляксандр Гаркоў**, дэпутат Гарадзенскага гарсавету;

**Іосіф Палубок**, дэпутат Гарадзенскага гарсавету, рабочы ГВА "Хімвалакно";

**Юрый Мацко**, дэпутат Гарадзенскага гарсавету, кавальмастак.

**Васіль Чычагаў, член Прэзідыуму Гарадзенскага** гарсавету, дэпутат гарсавету;

**Станіслаў Буйніцкі**, старшыня Гарадзенскага абласнога Саюзу прадпрымальнікаў;

**Аляксандр Мілінкевіч**, старшыня Таварыства Беларускай Школы;

**Мікола Таранда**, кіраўнік клубу "Паходня";

Збор подпісаў працягваецца.

# ПОЛЬСКІ КАМІСАР ПАЛІЦЫІ ВЫРАШЫЎ НАВУЧЫЦЬ БЕЛАРУСКІХ МЫТНІКАЎ ПРАЦАВАЦЬ. А ПАЦЯРПЕЛІ - ТУРЫСТЫ.

**На аўтамабільным прапускным пункце польска-беларускай мяжы апошнім часам склалася небясьпечная сітуацыя. Беларускія грамадзяне падвяргаюцца зьдзекам з боку польскай паліцыі. Камісар паліцыі Кузьніцы адкрыта заяўляе, што будзе вучыць працаваць беларускіх мытнікаў, трымаючы нашых суайчыньнікаў на мяжы як заложнікаў.**

**!!! СКАНДАЛ**

- Гэта становішча, - гаворыць В.Канаплёў, жыхар Горадні, - склалася пасьля таго, як прапускаць машыны на мытню стала паліцыя. Чарга была вынесена за межы Кузьніцы. Прапускныя талоны сталі выдавацца пад кіраўніцтвам паліцэйскіх. Адразу распачаўся гандаль талонамі. Іх прадаюць на чыгуначным вакзале, у кавярнях і непасрэдна ў аўтамабільнай чарзе...

Аўтамабілі звычайна праязджаюць на мытню ў тры патокі. Асобна грузавыя, асобна легкавыя турыстычныя, асобна транзытныя (машыны купленыя за мяжой). Самая доўгая чарга - транзытная. У ёй можна прастаяць некалькі сутак. Па невядомых прычынах беларускіх грамадзян, якія едуць па турыстычных ваўчарах, прымушаюць станавіцца менавіта туды. Робіцца гэта вельмі груба. Паліцэйскія нецэнзурна лаюцца, не зьвяртаючы ўвагі на прысутнасьць жанчын і дзяцей. У некаторых выпадках ужываецца фізічная сіла. Паласа, па якой павінны праязджаць турыстычныя аўтамабілі, застаецца пустой. Па ёй вольна праязджаюць грамадзяне толькі заходніх краін і Польшчы.

Транзітнікам трэба як найхутчэй праехаць мяжу. Яны згодны плаціць любыя грошы. Беларускія турысты ня ў стане з імі канкураваць і вымушаны суткамі стаяць у чарзе. Міма іх, бывае пад экскортам паліцыі, праязджаюць машыны, якія прыехалі пазьней. Людзі расцэньваюць гэтую сітуацыю як нахабнае вымаганьне хабару.

13 ліпеня а палове чацьвёртай ночы, пасьля таго, як на працягу дванаццаці гадзін на мытню не была прапушчана ні адна машына з беларускімі нумарамі, а кошт талона падняўся да 150 даляраў, змучаныя людзі ня вытрымалі. Яны пачалі патрабаваць справядлівасьці. Паліцэйскія падрыхтавалі дубінкі і па рацыі выклікалі дапамогу. На шчасьце ў гэты раз усё скончылася мірна. Жанчыны ўступілі ў размову з паліцыяй, каб даведацца, на якой падставе беларускіх грамадзян прымушаюць стаяць у адной чарзе з транзітнікамі. Высьветлілася - па загаду камісара паліцыі. Але толькі ў 6 гадзін Ніне Мiсевіч і яе шматлікім калегам па няшчасьцю удалося з ім паразмаўляць. Камісар сказаў, што на яго думку, беларускія мытнікі дрэнна працуюць і ён зьбіраецца іх навучыць, таму не прапусьціць ні адной беларускай турыстычнай машыны, пакуль не праедуць транзітныя.

Толькі днём, пасьля звароту ў беларускае консульства ў Беластоку, чарга пачала пасоўвацца. Але камісар паліцыі не паважае беларускага консула, бо вечарам усё пачалося з пачатку.

З якой нагоды беларускіх грамадзян прымушаюць плаціць грошы за праезд дадому? Дакуль на мяжы будзе працягвацца зьдзек з людзей?

**Д.КІСЕЛЬ.**

**P.S.** Для зацікаўленых: у рэдакцыі "Пагоні" ёсьць стужка з запісам сьведчаньняў удзельнікаў падзей 13 ліпеня.

## КОЖНЫ ДРУГІ - БЕСПРАЦОЎНЫ

Як паведаміў старшыня гарсавету Горадні Ф.Гудзей, колькасьць зарэгістраваных беспрацоўных у горадзе складае каля 8 тысячаў чалавек. На самой жа справе не працуе ў Горадні кожны другі з агульнай колькасьці працаздольнага насельніцтва. Па словах Ф.Гудзея, ад поўнай нястачы гэтых людзей выратоўвае рынак.

## НА ГРАМАДЗКІЯ РАБОТЫ!

Менавіта так вырашае праблему беспрацоўя Воранаўскі цэнтр занятасьці. Кожны дзень ад раённага дома культуры адпраўляецца аўтобус, які забірае каля 20 чалавек, што жадаюць папоўніць свой бюджэт.

Як правіла, людзей накіроўваюць на дагляд пасеваў агароднiны ў калгас "Пераганцы".

## У НУМАРЫ:



• **ВІВАТ АТЛАНТА!**

Заўтра ў Атланце пачынаюцца XXVI Алімпійскія гульні. У складзе беларускай зборнай - 21 спартмэн з Гарадзеншчыны. Сярод іх -алімпійскія чэмпіёны Аляксандр Курловіч (1988, 1992), Ірына Шылава (1988), Канстанцін Лукашык (1992). пра нашыя алімпійскія надзеі чытайце на стар. 8.




• ТБК, Астанкина, РТР, С.-Пецярбург, НТБ, Польшча-1, Польшча-2.




• **"ШКОДА" СУСТРЭНЕ ВАС ЛЯ ЎВАХОДА**



• **РЫНАК ДЭПАЗІТАЎ**

-ст. 3




• **ВЫ ПРАЦУ ШУКАЕЦЕ?**

Рэдакцыя "ПАГОНІ" шчыра хоча Вам у гэтым дапамагчы. Зьвярніце ўвагу, калі ласка, на шостую старонку газеты.

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## КУРС НА АДСТАЎКУ ЛУКАШЭНКІ

**13 і 14 ліпеня ў Менску прайшла канферэнцыя Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". На ёй прысутнічаў 161 дэлегат з усіх рэгіёнаў Беларусі. Былі разгледжаны пытаньні: "Аб палітычным становішчы ў краіне", "Беларусь і краіны-суседзі". "Нацыянальная ідэя сёньня", "Беларускі Народны Фронт і грамадзтва", "Работа структураў Народнага Фронту ў сучасных умовах". Працавалі эканамічная, палітычная і маладзёжныя секцыі.**

Як адзначалася на канферэнцыі, на БНФ кладзецца вялікая адказнасьць за адраджэньне дэмакратыі на Беларусі. Асноўны спосаб дасягненьня гэтага - адстаўка Лукашэнкі з паста прэзідэнта. Адзін з інструмантаў - ліквідацыя пасады прэзідэнта, як кіраўніка выканаўчай улады.

Фронт выступіў з ідэяй імпічменту і зараз у розных варыянтах яна загучала ў прэсе і нават у парламанце. Вырашана, што Фронт мусіць падкрэкліваць сваю ідэю пра без'ядзерную зону ў цэнтры Эўропы.Калі цяпер нават Лукашэнка патрабуе 1000 км без ядзерных ракет на захад ад Беларусі, то неабходна патрабаваць столькі ж на усход.

Канферэнцыя выказалася за цеснае супрацоўніцтва з усімі антытаталітарнымі сіламі ад ліберальных эканамістаў да нацыянал-анархістаў, але асновай дзейнасьці Фронту застаецца рэалізацыя нацыянальнай ідэі. Нацыяналізм - у цывілізаваным разуменьні гэтага тэрміну - асноўны лек для Беларусі. Прынцып фронтаўскага нацыяналізму - прынцып роўнасьці нацый. Няма вялікіх і малых народаў, вялікіх і малых культур, вялікіх і малых моваў, ёсьць народы, якія займаюць большыя і меншыя тэрыторыі.

Нягледзячы на прапанову Пазьняка устрымацца ад удзелу ў маючых адбыцца ўвосень давыбарах, было вырашана прыняць у іх самы актыўны ўдзел.

Утвораны Палітычны камітэт БНФ, які лагічна дапасоўвае да Грамадзкага кабінету міністраў БНФ. У новую кіруючую структуру Фронту ўвайшлі: старшыня БНФ, яго намесьнікі і сакратары Управы БНФ. Каардынатарам Палітычнага камітэту абраны Вінцук Вячорка.

**Станіслаў СУДНІК.**

ПАСЛЯ ТАГО, ШТО ПРЭЗІДЭНТ ЗРАБІЎ З НАРОДАМ, ЁН АБАВЯЗАНЫ НА ЁМ АЖАНІЦЦА.....

АС

## НОВАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ БНФ

11 ліпеня ў Ваўкавыску адбылася рэгіянальная канферэнцыя Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Дэлегаты пяці суполак г. Ваўкавыска і Ваўкавыскага раёну прынялі рашэньне аб утварэньні Ваўкавыскай рэгіянальнай арганізацыі БНФ "Адраджэньне". Абраны рада і старшыня. Старшынём Ваўкавыскай рэгіянальнай рады стаў Віктар Сакалоўскі. Новыя суполкі БНФ утвораны з былых сяброў гарадзкой арганізацыі БНФ , гарадзкіх і раённых арганізацый БСДГ, БЗВ і ТБМ.

**Станіслаў СУДНІК.**

## У КАМІТЭЦЕ ПА АБАРОНЕ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СІМВОЛІКІ

13 ліпеня ў Менску адбылося паседжаньне Камітэту па абароне беларускай нацыянальнай сімволікі. У Камітэт, які быў утвораны ў асноўным з менчукоў, увайшлі прадстаўнікі ўсіх абласцей Беларусі. Ад Гарадзеншчыны ў Камітэт увайшлі Кастусь Жынь з Горадні і Станіслаў Суднік з Ліды. Абраны старшыня Камітэту. Ім стаў доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч.

**Усяслаў ВОЙНІЧ.**

## СПЫНІЦЬ ПЕРАСЬЛЕД!

"Спыніць палітычнае прасьледаваньне пад выглядам "крымінальнай справы" Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка", - з такім патрабаваньнем да прэзідэнта, Вярхоўнага Савету і Генеральнага пракурора зьвярнуліся ўдзельнікі канферэнцыі БНФ. Аўтары дакумента пратэстуюць таксама супраць прасьледаваньня намесьнікаў старшыні БНФ Юрыя Хадыкі і Вінцука Вячоркі, а таксама сакратара Управы Фронту Вячаслава Сіўчыка. Прэс-служба БНФ распаўсюдзіла і зварот да Вярхоўнага Савету з заклікам ініцыяваць працэс адхіленьня ад пасады прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

## СІТУАЦЫЯ Ў БЕЛАРУСІ НАГАДВАЕ ЮГАСЛАВІЮ

**12 ліпеня ў Горадні прайшла прэс-канферэнцыя выканаўчага дырэктара Беларускага Фонду Сораса Пітэра Бэрна і каардынатара Фонду па культурных праграмах Алеся Анціпенкі. На сустрэчы з журналістамі Пітэр Бэрн адзначыў, што ў сувязі з вясновымі падзеямі ў Менску прыярытэтнымі накірункамі дзейнасьці Фонду на Беларусі будуць падтрымка свабоды слова і абарона правоў чалавека.**



Сітуацыя ў Беларусі абмяркоўвалася нядаўна на праўленьні Інстытуту адкрытага грамадзтва ў сталіцы Венгрыі. Па словах выканаўчага дырэктара Беларускага Фонду Сораса, у Будапешце сітуацыю ў нашай краіне "разумеюць як ніколі". Пітэр Бэрн (на здымку), адзначыў, што становішча ў Беларусі нагадвае Югаславію. Там дзейнасьць Фонду Сораса з-за падтрымкі ім незалежных сродкаў масавай інфармацыі была нават прыпынена і толькі пад ціскам сусьветнага супольніцтва ў чэрвені аднавілася.

У Беларусі Фондам Сораса павялічыцца фінансаваньне праграмаў па экалогіі, падтрымцы сродкаў масавай інфармацыі, рэформаў самакіраваньня. У Будапешце было прынята таксама рашэньне правесьці дэцэнтралізацыю Беларускага Фонду Сораса. Прычым ня ў выглядзе стварэньня філіяў, а шляхам падтрымкі рэгіянальных грамадзкіх арганізацый і супрацоўніцтва з імі. Справаздачная прэс-канферэнцыя якраз і адбывалася падчас знаёмства сп. Бэрна з дзейнасьцю гарадзенскай "Ратушы" (інтэрв'ю з яе кіраўніком сп. Мілінкевічам друкавалася ў папярэднім нумары "Пагоні"). Па словах выканаўчага дырэктара фонду, перспектывы ў гэтай арганізацыі вельмі добрыя і ўжо праз 2-3 месяцы можна чакаць першых станоўчых вынікаў дзейнасьці "Ратушы".

**Вітаўт РУДНІК.**

**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА.**

## МАЛАДЗЁЖНАЯ САЛІДАРНАСЬЦЬ

"У Беларусі правы чалавека парушаюцца штотыднёва, штогадзінна" -заявіў выступаючы на прэс-канферэнцыі, намесьнік старшыні Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Францыска Скарыны Генадзь Лех. Прэс-канферэнцыю, прысьвечаную становішчу з правамі чалавека ў Беларусі, арганізаваў Ультрарадыкальны ліберальны саюз "Маладзёжная салідарнасьць". На думку сп. Леха, "расейскія ўлады ўсімі сродкамі падтрымліваюць Лукашэнку", нягледзячы на тое, што "ён не хавае сваёй павагі нават да Гітлера".

Саюз "Маладзёжная салідарнасьць" абвясьціў аб пачатку "антылукашэнкаўскай кампаніі і дэклараваў стварэньне рэгіянальнага аддзяленьня гэтай арганізацыі ў Беларусі.

**Э.-Х.**

## МАНІФЕСТАЦЫЮ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ УЗНАЧАЛІЦЬ ДЭЛЕГАЦЫЯ БЕЛАРУСІ

Кожны год у Нью-Ёрку ў ліпені праходзіць тыдзень панявольных народаў, які завяршаецца маніфестацыяй на 5-й авеню. Сёлета начале маніфестантаў пойдзе дэлегацыя Беларусі. Узначаліць калону беларусаў старшыня БНФ "Адраджэньне" Зянон Пазьняк. Беларусы будуць пратэставаць супраць анэксіі сваёй краіны Расеяй, супраць карычневага рэжыму Лукашэнкі.

**Станіслаў СУДНІК.**

## САПЕГА "ГАДУЕ" НЕФАРМАЛАЎ

**12-13 ліпеня ў Менску прайшоў семінар "Прававыя асновы арганізацый грамадзкіх аб'яднаньняў".**

L. SAPIEHA

Семінар быў арганізаваны Бюро па няўрадавых арганізацыях пры Фондзе імя Льва Сапегі. Удзел у ім прымалі прадстаўнікі каля 40 грамадзкіх арганізацый і ініцыятыўных групаў з усёй краіны. У іх ліку -гарадзенскія Заходнебеларускі цэнтр дасьледаваньняў Усходняй Эўропы, Асацыяцыя маладых навукоўцаў "Віт" і "Воля да развіцьця" са Слоніма. Удзел у працы семінару браў дэпутат Вярхоўнага Савету Аляксандр Дабравольскі, які распавёў аб магчымых зьменах у законе аб грамадзкіх арганізацыях у Беларусі.

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

## НОВЫ САЮЗ ПАЧНЕЦЦА Ў МАЛАДЭЧНЕ?

**У Маладэчне створаная новая грамадзкая арганізацыя – Беларускі Дэмакратычны Саюз Моладзі (БДСМ).**

Старшынём арганізацыі абраны Ігар Ляшок. Саюз мае на мэце згуртаваньне беларускай моладзі вакол ідэй незалежнасьці, адраджэньня роднай мовы і культуры, далучэньня да аб'яднанай Эўропы, абароны правоў чалавека. Ініцыятары стварэньня БДСМ спадзяюцца перайтварыць Саюз у агульнабеларускі. Зьвязацца з сябрамі арганізацыі можна па тэлефонах (01773) 5-37-69, 6-53-39, 5-10-60.

**АЛЕСЬ ЦАДКО.**

## АНТЫБЕЛАРУСКАЯ АКЦЫЯ Ў ЛІДЗЕ

**У адзін тыдзень усе шыльды на Лідзкім вакзале былі замененыя з беларускіх на расейскамоўныя.**

Сябры Рэспубліканскай Рады Таварыства Беларускай Мовы імя Францыска Скарыны Міхась Мельнік і Станіслаў Суднік неадкладна выказалі рашучы пратэст начальніку вакзала Тарэсе Касьпяровіч. Спадарыня Тарэса спасылаецца на загад з Баранавічаў ад Васіля Каненкі і Менска - Яўгена Валадзько, але і ў Баранавічах і ў Менску тыя самыя шыльды напісаны па-беларуску.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

## "ПАРЛАМАНТ ПРАЦУЕ ПРАДУКТЫЎНА"

"У апошні час беларускі парламант працуе асабліва прадуктыўна", - заявіў 15 ліпеня на сваёй прэс-канферэнцыі лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч. У ліку найбольш значных станоўчых вынікаў працы першай сесіі Вярхоўнага Савету ён назваў прыняцьцё закона "Аб адказнасьці службовых асобаў за невыкананьне рашэньняў Канстытуцыйнага Суду".Аб'яднаная грамадзянская партыя выступіла з ініцыятывай правесьці ў кастрычніку кангрэс дэмакратычных сіл Беларусі.

## НАША ЖЫЦЬЦЁ - НЕ АФІЦЫЙНАЕ МЕРАПРЫЕМСТВА

**У "Народнай газеце" за 28 чэрвеня зьявілася "пояснение"намесьніка старшыні Дзяржтэлерадыё Ядранцава ў адносінах да падзеяў 26 красавіка і пазіцыі "Радыё-2", якую ўзначальвае Уладзімір Дзюба. Гэтая рэдакцыя "пасьмела" даць у эфір 27 красавіка інфармацыю пра трагічныя падзеі папярэдняга дня ў Менску. На той жа старонцы была пададзена "Заява Савета галоўных рэдактароў Беларускага радыё", праўда, бяз прозьвішчаў тых рэдактараў.**

**Абодва матэрыялы па сваёй сутнасьці і стылістыцы нагадваюць савецкую публіцыстыку 1930-х - пач.1950-х гадоў, калі кожная спроба іншадумства прыцiскалася спачатку славесна, а потым і фізічна.**

**Рэдакцыя прапануе адказ-рэфлексію дэпутата гарадзенскага гарсавету сп. Маліноўскай на маналог "товарища" Ядранцава, пад якім падпісалася 50 чалавек.**

Цяжка быць журналістам у такой краіне, як Беларусь. Навокал буяе стракатае жыцьцё, якое прафесіяналізм падштурхоўвае пераасэнсаваць і перадаць поўна, выразна і сьціла праз фактalагічную інфармацыю, каментар альбо аналіз. Але... ёсьць Ядранцаў, які "просит о единственном": "сделать информацию об официальном мероприятии". Ягоную просьбу задавальняюць, але яшчэ ў эфір ідзе паведамленьне пра "неафіцыйнае мерапрыемства" - шматтысячнае шэсьце "Чарнобыльскі шлях" на дзесятыя ўгодкі трагедыі, якое ўсхвалял ўвесь сьвет. На думку Ядранцава, казаць пра такую падзею, гэта - "говорить совершенно не то". Ай-ай-ай, таварыш Ядранцаў, вось гэта і ёсьць цынізм, пра які Вы напісалі ў тытуле свайго "монолога" у "Народнай газеце" за 28 чэрвеня.

Я зразумела, што Вы, таварыш Ядранцаў, "пропагандируете" іншыя погляды, чым дазваляюць сабе мець супрацоўнікі "Радыё - 2". Вашы погляды - не пушчаць, не дазваляць, забараняць, навучаць, вызначаць, - нават маршрут дамоў спадару Дзюбе. Для Вас Мараль і Закон - гэта Вы. У мяне іншы пункт гледжаньня і я, як падаткаплацельшчык, на грошы якога ўтрымоўваецца Дзяржрадыё, маю права патрабаваць, каб мае погляды і пазіцыі былі асьветлены на радыё. Я таксама маю права сама выбіраць, якія тэмы, інфармацыі і думкі мяне цікавяць і гэтага права таварышу Ядранцаву я не дэлегавала.

Ня маю гонару быць асабіста знаёмай са спадаром Уладзімірам Дзюбам, але ведаю "Радыё-2", як найбольш інтэлектуальную і артыстычную, рэдакцыю беларускага радыё, - таму не зьдзіўлюся, што па выніках сацыялагічнага апытваньня за мінулы год гэтая рэдакцыя ахапіла найбольш прыхільнікаў.

Прачытаўшы хрэстаматыйна-шэдэўральны опус "а ля Берыя" ад таварыша Ядранцава і міфічнага "Савету галоўных рэдактараў Беларускага радыё", якія нават не падпісалі сваіх прозьвішчаў, я выказваю сваё захапленьне прафесійнай і грамадзкай мужнасьцю рэдактара Дзюбы і яго калегаў.

Калі Вы пішаце пра няўгодную Вам рэдакцыю, Ваша азлобленасьць, таварыш Ядранцаў, адчуваецца ў кожным радку. Вы кажаце, што не пайшла аўтарская праграма Юрыя Бывава "Жыцьцяпіс"? Хлусіце. Ня толькі пайшла - разыйшлася па руках! Касэты з запісам асобных перадачаў праграмы я, як выкладчык гісторыі беларускай культуры Гарадзенскага універсітэту, ды і ня толькі я, выкарыстоўваю на практычных занятках са студэнтамі і маю магчымасьць з асалодай назіраць, як сьвятлеюць твары студэнтаў, як абуджаецца ў іх гонар за прыналежнасьць да нацыі, якая падаравала эўрапейскай культуры такія постаці, як Леў Сапега, Мацей Радзівіл, Тадэвуш Рэйтан, Адам Міцкевіч ды інш. Пра іх зацікаўлена, з добрым веданьнем гісторыі Бацькаўшчыны і гонарам за яе, апавядае аўтар - спадар Быкаў. Дзякуючы "Жыцьцяпісу", кшталтуецца нацыянальная годнасьць беларускай моладзі, якой так не хапае майму пакаленьню. Вам, таварыш Ядранцаў, гэта якраз і не патрэбна. Так набярыцеся мужнасьці і адкрыта скажыце пра гэта!

Вы, таварыш Ядранцаў, пішаце, што "не намерены" працаваць са спадаром Дзюбам. Што ж, рабіце высновы і памятайце: наша жыцьцё - не афіцыйнае мерапрыемства, і слухачам радыё патрэбны ў эфіры ўвесь сацыяльна-палітычны і культурны сьпектр сёньняшняга дня, а не прапаганда Вашых поглядаў.

Шчыра зычу рэдакцыі "Радыё-2" даўгалецьця і шырокай аўдыторыі. Трымайцеся - слухачы разам з Вамі!

Спадзяюся, што да маіх думак, выкладзеных у лісьце да таварыша Ядранцава, далучацца іншыя аматары "Радыё-2" і ўсе тыя, хто шануе Беларусь.

**Т.МАЛІНОЎСКАЯ - сябра Прэзідыума Гарадзенскага гарсавету, старшыня камісіі па культуры і міжнацыянальных адносінах, ст. выкладчык ГрДзУ.**

# НА ГАРАДЗЕНШЧЫНЕ - СТО ХВОРЫХ СНІДАМ?




***- Наколькі вялікая рызыка захворваньня СНІДам на Гарадзешчыне?***

- Надзвычай вялікая. У вобласьці выяўлена ўжо два чалавекі, хворыя на СНІД. Гэта навучэнец з Камеруна і маладая гарадзенка.

***- Ці зьвязаныя гэтыя выпадкі паміж сабой?***

- Не.

***- Але пасьля выпадку з афрыканцам па гораду хадзілі чуткі аб дзесятках "заляцаўшых" ад яго гарадзенскіх дзяўчынак?***

- Шуму гэты выпадак нарабіў шмат таму, што быў першы ў вобласьці. Ніякіх палавых кантактаў камерунца з нашымі дзяўчынкамі да гэтага часу ня выяўлена. Па нашых зьвестках, гэты хлопец быў самым сьціплым з усёй кампаніі навучэнцаў з Афрыкі, якія прыехалі на вучобу. Навучэнец адасланы на радзіму. Там у яго жонка, дзіця...

***- Што чакае жанчыну, якую напаткала такое няшчасьце?***

- Яна будзе знаходзіцца пад пастаянным наглядам сьпецыялістаў. Пры любой хваробе будзем лячыць яе як і ўсіх людзей. Клінічных праяваў у жанчыны няма. Яна - звычайны чалавек, але ў той жа час - носьбіт сьмяротнага вірусу.

***- На аднаго выяўленага, як сьведчаць сьпецыялісты, прыходзіцца 50 нявыяўленых хворых...***

-Гэта так. Зарэгістраваныя хворыя - толькі вяршыня айсьбергу. Аб яго памерах могуць даць уяўленьне наступныя лічбы. У краіне на сёньня -130 выяўленых носьбітаў віруса. Толькі за першыя 6 месяцаў гэтага году далі станоўчы вынік аналізы на СНІД 13 чалавек. У адпаведны перыяд мінулага году такіх выпадкаў было толькі чатыры. Рост СНІДу назіраецца ва ўсіх абласьцях Беларусі, асабліва на Магілёўшчыне.

***- Што спрыяе распаўсюджваньню сіндрому?***

- Рэзкі рост венерычных захворваньняў, у першую чаргу сіфілісу, ганарэі. Шлях перадачы хваробы - адзін і той жа. Па прагнозах сьпецыялістаў, па сьлядах усплыцьця венерычных захворваньняў ідзе СНІД.

**Хто сам сьцеражэцца - таго і Бог сьцеражэ. Вось і ўсё, што хацелася б дадаць да ўсяго вышэй сказанага.**

**Гутарыў Вітаўт РУДНІК.**

# ГРОШЫ РОБЯЦЬ НАВАТ НА СНІДЗЕ

Амаль ва ўсіх заходніх краінах забаронена рэклама не праверанных медычнай навукай лекаў. Хто спрабуе запэўніваць людзей, што толькі яму вядомы сродкі для вылячэньня раку або СНІДу, можа патрапіць у турму. Але нават гэта пагроза ня стрымлівае некаторых ад спроб зарабіць на няшчасьці іншых.

Пяць гадоў таму назад два брытанскія лекары былі асуджаны, бо лячылі сваіх пацыентаў ад СНІДу парашком, зробленым з перацёртай травы зьмешанай з чалавечымі фекаліямі. Порцыя "лекаў" каштавала 700 даляраў.

На пачатку гэтага году стала сенсацыяй зьяўленьне цудоўнага леку пад назвай Перла Амега. У яе добрай якасьці пераконваў адзін з галоўных дарадчыкаў прэзідэнта Кеніі. Адна бутэлечка каштавала 500 даляраў. Арганізацыі, якія апякуюцца хворымі на СНІД, сьцьвярджаюць, што няма ніякіх дадзеных пацьвярджаючых якасьць леку. І абсалютна невядома з чаго ён зроблены.

**Па матэрыялах ВВС падрыхтаваў Д.КІСЕЛЬ.**

# ЭПІДЭМІЯ Ў СЬВЕТЛАГОРСКУ

**Паводле паведамленьня інфармацыйнай службы творчага аб'яднаньня "Ранак", у Сьветлагорску Гомельскай вобласьці па стану на 11 ліпеня клінічна ідэнтыфікавана 38 жыхароў горада, захварэўшых на СНІД.**

Усяго інфіцыраваных выяўлена 52 чалавекі. Каля 20 чалавек яшчэ чакаюць вынікаў дадатковага абсьледаваньня ў Менску. Агульнае для ўсіх тое, што яны наркаманы.

Усяго на ўліку ў Сьветлагорскім наркадыспансэры знаходзіцца 208 наркаманаў, а па зьвестках ГРАУС іх колькасьць перавышае тысячу чалавек, таму сітуацыя можа рэзка ўскладніцца. Урач-эпідэміёлаг Вадзім Сахараў паведаміў, што першыя зьвесткі пра інфіцыраваных паступілі ў сярэдзіне чэрвеня. Фактычна адбыўся выбух эпідэміі. Па адной з версій прычына ў наркотыках, якія апошнім часам паступаюць у горад з Расеі ў разьведзеным выглядзе проста ў слоіках.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

# ГАРАДЗЕНСКІЯ МІРАЖЫ

**Казачны гарадок, напоўнены паветам мінулых стагоддзяў ажывае на палотнах разам з уяўнымі жыхарамі і персаніфікаванымі гістарычнымі постацямі... Ствараецца ўражаньне, што глядзіш дыхтоўна зроблены мультфільм паводле казак братоў Грым.**



Пэўна таму ёй удалося адлюстраваць ня сёньняшнія гарадзкія рэаліі і не рэканструяваную панараму Горадні пяцісотгадовай даўніны, а саму атмасферу, патаемны ідэал. Мастачка прапанавала гледачам атрымаць асалоду ад жаданага фантому, далучыцца да містычнага цела нашага роднага горада. У гэтым ёй дапамаглі акторы гарадзенскага драмтэатру, якія пад час прэзентацыі ў галерэі "У майстра" сыгралі жартаўлівую сцэнку наданьня Горадні Магдэбургскага права.

Гэтая выстава яшчэ раз пацьвердзіла, што ўсе мы жывем у палоне недасягальных ідэалаў, шукаем адказы на надзённыя пытаньні ў далёкім мінулым, якое сёньня раз-пораз усплывае салодкімі міражамі.

Але гэта - выстава, прымеркаваная да 500-х угодкаў наданьня Горадні Магдэбургскага права. Зьдзіўляе тое, што "Міражы над старым Гродна"(так называецца экспазіцыя) увасобіла берасьцейская мастачка -Анастасія Фяцісава.

**Людвік САРОКА.**

**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА.**

**На здымку: мастачка Анастасія Фяцісава.**

# МАСТАЦКІ ТЭЛЕГРАФ

15 ліпеня ў Алескім замку пад Львовам распачаўся Міжнародны пленэр скульптуры па каменю. Удзельнічаюць у гэтай творчай акцыі рэзьбяры з Аўстрыі, Нямеччыны, Фінляндыі, Аўстраліі, Украіны ды іншых краін. Адзіны прадстаўнік Беларусі на міжнародным пленэры - гарадзенскі скульптар Уладзімір Панцялееў. Пасьля заканчэньня імпрэзы творчыя набыткі рэзьбяроў аздобяць сам Алескі замак і мікраёны Львова.

Сябра Уладзіміра Панцялеева па творчай суполцы "Вежа" графік Юры Якавенка пасьля ўдзелу ў сур'ёзным міжнародным конкурсе выставіў свае працы ў прэстыжнай галерэі "Agora" у Нью-Ёрку на Брадвэі. Вельмі прыемна, што Юры Якавенка ня толькі ганаровы прадстаўнік Беларусі на гэтай выставе, але й адзіны мастак з абшараў гэтак званага СНД, які прайшоў адборачны конкурс.

**Ігар ГАНДЛЕЎСКІ.**

# ДВАЦЦАЦЬ АДНА НАДЗЕЯ




Асноўныя надзеі гарадзенскія аматары спорту ўскладаюць на нашых лёгкаатлетаў, стралкоў і, безумоўна, на цяжкаатлета Аляксандра Курловіча. Алімпійскі чэмпіён Сеула, Барселоны, рэкардсмэн сьвету і зараз у выдатнай форме і мае намер падцьвердзіць званьне мацнейшага чалавека планеты.

Алімпійскія перамогі маюць на сваім рахунку шматвопытныя Ірына Шылава (1988 год) і Канстанцін Лукашык (1992 год), які былі аўтарам адной з самых гучных сенсацый мінулай алімпіяды, стаўшы яе пераможцам у 16 гадоў. На працягу гэтага сэзону абодва нашыя стралкі на шэрагу міжнародных спаборніцтваў падцьвердзілі, што зьяўляюцца аднымі з галоўных прэтэндэнтаў на медалі Атланты. Уапошні момант у каманду стралкоў трапіла і пісталетчыца Жана Шыцік.

Найбольшае прадстаўніцтва ў складзе гарадзенцаў маюць лёгкаатлеты. Гэта і ня дзіўна. Мінулагодняму другому месцу ў камандным заліку на чэмпіянаце сьвету па лёгкай атлетыцы Беларусь абавязана срэбным медалям Ігара Астапковіча (молат), Уладзіміра Дуброўшчыка



(дыск), Эдуарда Хмяляйнена (дзесяцібор'е). Усе гэтыя атлеты сёньня ў Атланьце. Праўда, для Эдуарда Хмяляйнена гэта Алімпіяда - апошні буйны турнір у складзе зборнай Беларусі. З 1997 году ён ужо будзе адстойваць гонар фінскага сьцяга. Беларусь так і не змагла забясьпечыць добрыя ўмовы для жыцьця і трэніровак аднаму з лепшых сваіх спарцмэнаў.

Іншыя гарадзенскія лёгкаатлеты, няхай і не прэтэндуюць на медалі Атланты, здольныя заняць месцы, блізкія да п'едэсталу. Гэта датычыць у першую чаргу Таццяны Храмавай (вышыня), Дзьмітрыя Ганчарука (ядро). Дастойна павінны выступіць на алімпіядзе Натальля Сафроньнікава (200 м), Алена Мазоўка (марафон), Аляксандр Красько (молат).

Пэўныя надзеі ўправе мы ўскладаць на гарадзенскіх барцоў. Аляксандр Паўлаў, Валеры Цыленьць, Аляксандр Сідарэнка (грэка-рымскі стыль), Аляксандр Саўко і Алег Гогаль (вольная барацьба) зьяўляюцца загартаванымі ў разнастайных турнірах атлетамі, здольныя скласьці канкурэнцыю лепшым барцам сьвету.

Багата гарадзенцаў ў гімнастычнай зборнай Беларусі. І няхай Іван Паўлоўскі, Сьвятлана Тарасевіч, Юлія Саўко сёньня ня першыя нумары ў нашай камандзе, ужо сам факт іх удзелу ў алімпіядзе - вялікае для іх дасягненьне.



Прадстаўнік Гарадзеншчыны будзе змагацца за медалі і ў такім экзатычным для нас відзе спорту, як парусныя гонкі. У класе "Эўропа" паспрабуе свае сілы Анастасія Падабед. Пажадаем ёй сто футаў пад кілем і, як і ўсім астатнім беларусам, перамог у алімпійскай Атланьце.

**Вітаўт РУДНІК.**

**Фота: А.Перахода.**

**На здымках: Эдуард Хмяляйнен і яго трэнер і бацька Павел Хмяляйнен; Ірына Шылава.**

# ФУТБОЛЬНЫ ЭКСПРЭС

17 ліпеня ў розыгрышу Кубка УЕФА чэмпіёны нашай краіны - дынамаўцы з Менску - у Дубліне згулялі ўнічыю 1:1 з ірландскім "Багеміансам". У гэтым жа турніры сталічнае "Дынама-93" у Маладэчне перамагло малдоўскі "Цілігул" 3:1.

У чарговым туры чэмпіянату Беларусі па футболе лідзкі "Абутнік" на сваім полі перамог берасьцейскае "Дынама" 4:0. Гарадзенскі "Нёман" у Рэчыцы з лікам 2:0 выйграў у "Ведрыча".

# КРЫМІНАЛ

## ЗАМЕСТ ВОЦАТУ...

У Лідзкім раёне каля Бердаўкі двое злачынцаў, закаваўшы кіроўцу ў кайданкі і пакінуўшы яго ў лесе, захапілі МАЗ з грузам. Кіроўца, аднак, хутка выбраўся на дарогу і паведаміў у міліцыю. Загнаўшы захоплены рабаўнікамі МАЗ у кювет, лідзкія міліцыянты, напэўна, разгубіліся. У фуры, якая па дакумантах вязла з Украіны ў Літву воцат, аказаўся сьпірт.

Адбіты ў рабаўнікоў груз будзе канфіскаваны як кантрабандны. Цікава, ці аб'явяцца ў такім разе яго гаспадары?

## ВЫБУХ У БАЛЬНІЦЫ

Апоўдні ў нядзелю выбухнуў воданагравальны кацёл у прыёмным пакоі Бераставіцкай раённай бальніцы. Ад выбуху разбураны шэраг унутраных перагародак, частка сьцяны і дзьверы ў многіх пакоях. Акрамя таго, на першы цалкам, а на другім і трэцім - часткова, з вокнаў павылятала шкло.У выніку аварыі пацярпеў бальнічны вадзіцель, які з небясьпечнымі траўмамі шпіталізаваны.

**ІВАН ДАНІЛОВІЧ**

# КРЫЖАВАНКА

*Перакладзі на беларускую мову*



**Па гарызанталі:** 1. Сумерки. 8. Снаряжение. 11. Жара. 12. Икона. 13. Резонность. 16. Подсчет. 17. Падеж. 18. Дань. 21. Подосиновик. 22. Занос. 23. Болтун. 24. Верующий. 29. Колёсико. 30. Пробка. 31. Рёбрышко. 35. Зачинщик. 37. Приятель. 38. Колодка (сапож.). 39. Ранняя заря. 40. Сердечко.

**Па вертыкалі:** 1. Остановка. 2. Бегство. 3. Матушка, мама. 4. Костыль. 5. Грусть. 6. Годовщина. 9. Остатки. 10. Ноготки (бот.). 14. Интерес. 15. Устье (у печи). 19. Мак-самосейка. 20. Размер. 25. Гладь. 26. Калужница. 27. Почёт. 28. Корка. 32. Ласка (зоол.). 33. Корсет. 34. Топь. 36. Гамаша.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗЬМЕШЧАНУЮ Ў №28 "ПАГОНІ".**

1. Каракас. 2. Караганда. 3. Абіджан. 4. Ізраіль. 5. Пелапанэс. 6. Лукавац. 7. Бадайбо. 8. Азгеруш. 9. Мец. 10. Оха. 11. Галандзец. 12. Ахмадабад. 13. Нарач. 14. Саратаў. 15. Ван. 16. Алмазар. 17. Душанбэ. 18. Ігольны. 19.Эдж. 20. Кубанга. 21. Бэр. 22. Буг. 23. Чад. 24. Дунай. 25. Алтай. 26. Абезь. 27. Мбабанэ. 28. Озд.

ПАГОНЯ
Грамадзка-палітычная газета
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 465
Падпісны індэкс 63124

Адрас рэдакцыі:
230023, г.Горадня, вул. Дамініканская, 1
(0152) 45-35-61, 45-29-96
E-mail: andrei@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-45-37-14 (23.00-10.00)

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасьць за падбор і дакладнасьць фактаў, іх меркаваньні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі.
Адказнасьць за зьмест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня: 230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Заказ 2492 Наклад 12079
Нумар падпісаны да друку ў 16.00, 18.07.96

Рэдактар Мікола Маркевіч